Цана 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ: Вільня, Вострабрамская 2—11 (Wilno, Ostrobramska 2—11). Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал. на паўг. 1 зал. на 3 м-цы 50 гр.

№ 9 (18) Вільня, 8-га жніўня 1937 г. Год II.

## Дэмакратызм і яго формы.

Новачасны дэмакратызм, які існаваў або існуе ў некаторых дзяржавах, бярэ свой пачатак ад французскай рэвалюцыі (1789 г.), якая кінула клічы свабоды, роўнасьці і брацтва. Змагарамі за дэмакратычныя клічы былі пачаткова французскія мяшчане, якія былі ня толькі пачынальнікамі франц. рэвалюцыі, але і апосталамі дэмакратычных ідэяў. З часам вызнавальнікамі дэмакратызму сталі ўсе паступовыя людзі, а дэмакратычныя ідэі ў 19 стагодзьдзі і на пачатку 20-га захапілі вярхі і нізы эўрапэйскага і амэрыканскага грамадзянства.

Праўду кажучы, гэтыя ідэі ня былі новымі. Яны існавалі ўжо ў далёкай мінуўшчыне ў старадаўнай Грэцыі,скуль нават узялі свой назоў і пачатковую форму. Перанесьці даўнейшы грэцкі дэмакратызм у сучасныя варункі было трудна, а нават немагчыма, бо ўся маса народу сучасных вялізарных дзяржаў не магла зыйсьціся ў адно месца, каб абгаварыць і вырашыць дзяржаўныя справы і дзеля гэтага да старадаўнага дэмакратызму была ўведзена папраўка ў форме *парлямэнтарызму*.Сутнасьць парлямэнтарызму ў тым, што ня ўвесь народ прыймае беспасрэдні ўдзел у вырашэньні дзяржаўных спраў, а даручае гэта сваім паўнамоцнікам (паслом), якія зьехаўшыся твораць парлямант (сойм) і там ад імя народу падаюць голас. Аднак паслы не заўсёды былі добрымі выканаўцамі волі народу: яны часта падлягалі ўплывам сільных гэтага сьвету, праводзілі палітыку нязгодную з інтарэсамі народу або і абраблялі свае прыватныя інтарэсы. Вельмі часта яны не маглі споўніць таго, чаго хацеў народ, або таго, што абяцалі і дзеля гэтых прычын наступіў крызыс парлямантарызму, а разам з ім і дэмакратызму. У некаторых дзяржавах паўстаюць партыі, якія бяруць на сябе ўвесь цяжар дзяржаўнага жыцьця і ліквідуюць *дэмакратычны парлямантарызм*, а на яго месца ставяць *партыйны парлямантарызм*: на месца дэлегатаў ад *усяго* народу вырашаюць справы дэлегаты ад *аднэй* партыі. Гэтак сталася ў Саветах, Італіі і Нямеччыне.

Аднак паміма гэтага „ўпадку" сучаснага дэмакратызму ў апошніх часох можна спасьцерагчы спробы абнаўленьня дэмакратычных клічаў. Гэтыя спробы часта выходзяць ад тых людзей, ад якіх гэтага найменш трэба былоб спадзявацца і якія ў сябе дома ніякага дэмакратызму не прызнаюць. Тыя людзі часта гавораць і пішуць аб дэмакратызьме, як аб ідэальным ладзе, які зможа вырашыць балячкі сяньняшняга жыцьця, хоць не гавораць *які* гэта мае быць дэмакратызм. Так ці інакш справа дэмакратызму ізноў пастаўлена на парадку дня і палітычныя кругі стараюцца яе вырашыць у тым ці іншым кірунку. Пастараемся яе вырашыць і мы.

У прошлым нумары „Бел. Фронту" мы заявілі, што стаім на грунце *каапэратыўнага дэмакратызму*, прыгэтым падчыркнулі, што каапэратывізм без дэмакратызму немагчымы. З гэтага вывад, што мы творым новую форму дэмакратызму. Але пакуль мы пяройдзем да разгляду асноў і сутнасьці каапэратыўнага (ці каапэратывістычнага — як хто хоча) дэмакратызму, мы павінны разглядзець іншыя формы дэмакратызму, якіх на працягу вякоў, як у тэорыі так і ў практыцы, было многа.

1) Першнаперш дэмакратызм *клясычны* або грэцкі, які існаваў у старадаўнай Грэцыі. Сутнасьць яго была ў тым, што кожны грамадзянін якой колечы грэцкай рэспублікі (Атэнаў, Спарты, Тэбаў) мог браць удзел у народным зборы, галасаваць на ім і гэтакім парадкам прыймаць удзел у вырашаньні дзяржаўных спраў.

2) Падобным да грэцкага дэмакратызму быў дэмакратызм *вечавы*, які існаваў і у нас, у старадаўнай Беларусі. У нашых княжых гарадох (Полацку, Менску, Друцку, Віцебску, Смаленску і інш.) усе грамадзяне на гук вечавога звону зьбіраліся на рынак, дзе і вырашалі дзяржаўныя справы пры помачы галасаваньня, а часам і спрэчак.

3) Дэмакратызм *мяшчанскі* (буржуазны), які існуе цяпер у некаторых дзяржавах (Англія, Швайцарыя, Злуч. Штаты Паўночнай Амэрыкі і інш.). Гэты дэмакратызм, як мы ўжо казалі, апіраецца на трох клічах: свабоды, роўнасьці і брацтва і ўвёў парлямантарызм, як сваю функцыю. Выбары ў парлямант адбываюцца паводле пяціпрыметнай сыстэмы: роўнасьці, агульнасьці, тайнасьці, беспасрэднасьці і прапарцыянальнасьці. Да апошніх часоў гэты парлямантарны дэмакратызм быў уважаны за найвышэйшы і д э а л дэмакратычных імкненьняў чалавецтва. Апошнім часам яго моцна падважылі камуністы—за тое, што не касаваў сацыяльнай няроўнасьці і даваў голас буржуям, і фашысты — за тое, што дазваляў галасаваць людзям непартыйным і ворагам нацыі. Дзеля гэтага парлямантарны дэмакратызм перажывае цяпер крызыс і на месца яго ў некаторых дзяржавых уведзены партыйны дэмакратызм.

4) Дэмакратызм *партыйны* ўведзены ў тых дзяржавах, у якіх *адна партыя* кіруе ўсім дзяржаўным жыцьцём (Саветы, Італія, Нямеччына). Гэта партыя або выбірае у партыйны парлямант сама, або выстаўляе кандыдатаў,а галасаваць на сваіх кандыдатаў дазваляе ўсім. Як камуністы тэк і фашысты цьвярдзяць, што такія парт—парляманты ёсьць толькі часовымі і пераходнымі: калі будуць зьнішчаны ворагі народу і заіснуе адно камуністычнае ці фашыстоўскае грамадзянства, тады дэмакратызм ажыве сам сабою і запануе ў цэлай сваей красе.

5) Дэмакратызм *хрысьціянскі* апіраецца на пракананьні, што Бог ёсьць бацькам усіх людзей, а людзі паміж сабою ёсьць браты і дзеля гэтага брацтва яны роўныя. Клічы франц. рэвалюцыі (свабода, роўнасьць і брацтва)узяты з хрысьціянства.У асноўнай навуцы хрысьціянства паложана яшчэ догма, штоХрыстос памёр за *ўсіх* людзей, што кожны чалавек мае несьмяротную душу і што людзі павінны любіць адзін другога. Дзеля гэтага кожнае хрысьціянскае веравызнаньне прапаведвае дэмакратычныя клічы, а Каталіцкі касьцёл у сваім часе быў нават стварыўшы хрысьціянскі дэмакратызм (Папа Леў XIII), як грамадзкі і рэлігійны кірунак. Хрысьціянскі дэмакратызм дзеля сваей „бажэсьцьвеннасьці" ня быў нідзе ўведзены ў жыцьцё.

6) Демакратызм *анархістычны* не прызнае ніякай улады і дзяржавы, а хоча абапёрці грамадзкае жыцьцё на вольным супрацоўніцтве вольных людзей. Адкідаючы прыватную ўласнасьць і рэлігію, анархізм адкідае і ўсякую дыктатуру, або гнібленьне чалавека чалавекам. Паводле яго грамадою павінны кіраваць (а не ўрадавацы) выбраныя на падставе найболей свабодных выбараў павадыры. Гэтакі анархістычны дэмакратызм дзеля яго няжыцьцёвасьці таксама нябыў нідзе праведзены ў жыцьцё.

Гэтак прадстаўляюцца галоўныя формы дэмакратызму. Як бачым, ёсьць іх многа і яны паміж сабою рожняцца ў сваіх найглыбейшых асновах. Найбольш пашыранай формай дэмакратызму ёсьць дэмакратызм парлямантарны, або буржуазны, названы так дзеля таго. што не касуе прыватнай уласнасьці і маемаснай няроўнасьці, а толькі дае ўсім грамадзянам *роўны голас*. Крытыкай гэтага дэмакратызму, выказаньнем яго добрых і дрэнных бакоў мы займёмся ў наступным нумары нашага часапісу.

## Ваенны пажар на Далёкім Усходзе.

Ужо ад некулькіх гадоў з Далёкага Усходу ідуць грозныя весьці аб бязупынных спорах і крывавых сутычках паміж Японіяй з аднаго боку, а Саветамі і Кітаем — з другога. Палітычныя і вайсковыя кругі пачалі глядзець на Далёкі Усход, як на вулкан, з якога можа выбухнуць пажар сусьветнай вайны. У тамашнім палітычным жыцьці бяруць удзел ня толькі тры вышэй успомненыя дзяржавы, але і іншыя, як Англія, Францыя, Злуч. Штаты Паўноч. Амэрыкі, а нават Нямеччына і Італія. Там выходзяцца эканамічныя інтарэсы ўсіх гэтых дзяржаў (апроч можа Італіі), а ведама, што гэтыя інтарэсы адыгрываюць у палітыцы рашаючую ролю. Можна сказаць, што цэнтр палітычных падзеяў пачынае пераносіцца з Эўропы на Далёкі Усход, дзе паўстаюць новыя сусьветныя канфлікты.

У месяцы ліпні здарыліся там два факты, якія заставілі ўсіх ізноў зьвярнуць вочы на гэны небясьпечны пункт. Першым фактам быў спор паміж Японіяй і Саветамі за дзьве выспы на пагранічнай рацэ Амур. Пры гэтым споры былі забітыя і раненыя (па некалькі дзесяткаў з абедзьвух старон) і затоплена савецкая кананерка (ўзваружаны панцырны рачны параход). Пачалося з таго, што савецкія вайсковыя часьці занялі гэтыя выспы, якія маюць вялікае стратэгічнае значэньне пры пераправе праз Амур. Японцы ня толькі запратэставалі процію гэтага словам і чынам (агнём артылерыі), але нават паставілі савецкаму ўраду ўльтыматум. Пад пагрозай ўльтыматуму і вайны Саветы ўступілі і адклікалі свае аддзелы з выспаў. Гэтакім чынам вайна на Амуры і на гэты раз адложана да „лепшых" часаў.

Затое з Кітаем у Японіі загарэлася гарачая схватка. З чаго пайшло — і згадаць трудна. Кажуць, што японскі аддзел, варочаючыся ўначы з манэўраў, надышоў на кітайскі аддзел. Салдаты, ведама як салдаты, не хацелі адны другому уступіць і пачалася страляніна, якая перайшла з часам у сапраўдную вайну. У рэзультаце японцы ўзялі ўжо два вялікія гарады: Тьентсін, партовы горад з мільённым жыхарствам і Пэкін, былую сталіцу Кітаю.

Некаторым можа здавацца, што каб ня тое няшчаснае спатканьне ўначы, дык усё было-б спакойна і цяпер там ня ліласяб кроў... Аднак такое суджэньне памылковае: відаць, для некага гэнае спатканьне было патрэбнае, так як было патрэбным спатканьне італьянскіх і абісынскіх вайсковых аддзелаў на пачатку абісынскай вайны... Прычыны далёкаўсходніх падзеяў былі глыбейшыя і гэныя *прычыны нам трэба прасьледзіць*.

Усім ведама, што пачынальніцай закалоту на Дал. Усходзе была *Японія*. Гэтая дзяржава ня можа зьмясьціцца на сваіх вулканіч-

ных выспах усяго свайго насельніцтва і мусіць шукаць для сябе прастору дзеля калянізацыі. Даволі сказаць, што ў Японіі на 1 кв. кілёмэтры жыве 174 чалавекі, апроч гэтага кожны год там родзіцца 800 тысяч дзяцёй! Трэбаж недзе падзець гэтую грамаду! Дзеля гэтага Японія пачала шукаць прастору ў розных кірунках: Філіпіны, Аўстралія, Аннам, Кітай, Карэя, Манджурыя, Сібір. Найвыгадней для яе было-б заняць тры першыя землі (там цёплы клімат), але яны ўжо былі заняты другімі дзяржавамі: Філіпінскія выспы — Злучанымі Штатамі П. А.; Аўстралія—Англіяй, Аннам з Кохінхінай—Францыяй. Змагацца з гэтымі дзяржавамі Японія не захацела, дык зьвярнула вочы на ўсход: у 1894 г. займае Карэю, ў 1904 г. спатыкаецца ў Манджурыі з Расіяй. У вайне з Расіяй астаецца пераможніцай і пачынае адсоўваць Расію ад Вялікага акіяну. У 1932 г. творыць „незалежную“ Манджурыю і пачынае стратэгічную падгатоўку да вайны з Саветамі, каб адабраць ад іх Сібір.

Японія добра ведае, што толькі ў Сібіры (ды ў Манджурыі) ёсьць яшчэ свабодныя землі дзеля калянізацыі. У Кітаі яна гэтых земляў ня знойдзе: там бадай такая самая цесната, як і ў Японіі. Але Сібіру бароняць бальшавікі, якія правялі тамака ўздоўж усяе манджурскае граніцы вялізарныя ўкрапленьні, сканцэнтравалі цэлую армію (каля 300 тысяч), узбраілі яе ў найлепшыя прылады сяньняшняй вайсковай тэхнікі — і чакаюць нападу. Трэба сказаць праўду, што Японія гэтакіх узбраеньняў і гэтакай падгатоўкі збаялася. Яна зразумела, што бальшавікі будуць біцца да апошняй магчымасьці, што вайна будзе даўгая, крывавая і каштоўная, а да гэтакай вайны Японія непадгатавана—дык пачала і яна гатовіцца да вайны. Падгатоўка ідзе ў кірунку тэхнічным, стратэгічным і фінансавым. Тэхнічна падгатовіцца Японіі памагаюць немцы; прыгэтым знаўцы кажуць, што за пяць гадоў Японія з тэхнічнага боку да вайны будзе гатова. Стратэгічна таксама: праз Карэю і Манджурыю праводзяцца важнейшыя чыгункі, разбудаваны прыморскія парты (порт Дайрэн у Манджурыі за апошнія гады стаўся адным з найбольшых партоў Азіі), асталося толькі забясьпечыцца з боку Кітаю. *І вось цяпер Японія праводзіць забясьпечаньне сваіх тылаў з боку Кітаю.* У гэтым і ляжыць увесь сэнс цяперашніх падзеяў.

*Кітай* апынуўся ў вельмі трудным палажэньні. Гэтая аграмадная дзяржава, якая застыла ў сваей старадаўнай культуры, а новай, эўрапэйскай яшчэ ня прысвоіла (так як Японія), перажывае вялікі нутраны закалот і дэзарганізацыю. Там кожны губэрнатар правінцыі мае свае войска і лічыць сябе незалежным ад цэнтр. ураду ў Нанкіне. Японія адабрала ад Кітаю Манджурыю і нутраную Манголію з 35 мільёнамі насельніцтва, цяпер адбірае 5 паўночных правінцыяў, дзе налічваецца каля 100 мільёнаў людзей, правінцыяў людных, багатых у розную сыравіну і зямныя плады. З гэтых правінцыяў Японія хоча стварыць, так як і з Манджурыі, незалежную ад Нанкіну, а залежную ад сябе дзяржаву. Зарганізаваўшы такім чынам паўночны Кітай, Японія створыць там заплечча і магутную базу ў будучай вайне з бальшавікамі. Там яна будзе мець нявычарпаныя запасы вугля, нафты, жалеза, медзі, бавоўны, хлеба і ўсяго, што патрэбна для доўгай вайны. Тамжа знойдзе і вялікі запас чалавечага матар'ялу. Кітайцы, як ведама, ў чужой арміі б'юцца вельмі добра.

Штож на гэта Кітай і што іншыя дзяржавы?

Кітай стаяў заўсёды на грунце пасыўнага супраціўленьня Японіі, бо на актыўнае выступленьне ў яго ня было і няма сіл. Чанг-Кай-Шэк заявіў, што ён няскłонны да далейшых уступак Японіі і хоць не жадае для Кітаю долі Абісыніі, то ўсёжтакі пойдзе за абісынскім прыкладам абароны бацькаўшчыны... Гэтую тактыку кітайскі маршал праводзіць цяпер рашуча, бароняючы край ад падзелу і ад японскай акупацыі. Кажуць, што калі Японія дайдзе да намечаных сабе граніц (Жоўтай ракі), яна спыніць свой паход, але пры стойкасьці кітайцаў патраціць многа сіл і энэргіі.

Час дзеля паходу Японія выбрала вельмі ўдачна. Эўропа занята сваімі нутранымі справамі, а асабліва гішпанскімі падзеямі. Англія, якая магла-б найболей перашкодзіць Японіі ў яе плянах, зьвярнула ўвагу на Італію і Нямеччыну, якія гразяць яе інтарэсам у Эўропе і зьнішчажэньнем яе ўплываў на Міжземным моры. А страта ўплываў на Міжземным моры (Суэц і Гібралтар) гразіць крахам для ўсяе Англійскай імпэрыі! Значыць, Англіі не да Кітаю тады, калі бліжэйшыя справы ў небясьпецы! Штож датычыць Саветаў, дык яны павінны былі-б цяпер, не чакаючы пакуль узмацуецца Японія, напасьці на яе, але на папераджаючую вайну яны *цяпер* адважыцца ня могуць, бо мусяць зелечыць раны, спрычыненыя тугачэўшчынай. Былі нават чуткі аб арыштаваньні начальніка далёка-ўсходняй арміі маршала Блюхера! Словам, усё спрыяе плянам Японіі—і яна забірае паўночны Кітай, горад за горадам, правінцыю за правінцыяй... Саветам асталося толькі памагаць Кітаю, што яны і робяць.

Для нас, беларусаў, далёка-ўсходнія падзеі маюць вялікае значэньне. Канфлікт Саветаў з Японіяй блізіцца; беларусы, што апынуліся ўСаветах, будуць браць удзел у гэтым канфлікце. Трэба думаць, што яны возьмуць у рукі вінтоўкі ня толькі дзеля вайны з Японіяй, але дзеля здабыцьця для сябе належных правоў, бо біцца з Японіяй беларусы ня маюць за што. Расійска-японская вайна з 1904 г. давяла да першай расійскай рэвалюцыі і да захістаньня царскага рэжыму. Будучая вайна можа прывесьці да аграмадных зьмен на прасторах Савецкага Саюзу і да захістаньня сяньняшняга рэжыму. Да гэтых зьмен беларусы павінны быць гатовы, і калі прыдзе адпаведная часіна, узяць для сябе незалежнасьць разам з іншымі паняволенымі народамі.

*А. В.*

## *ЗАЦЕМКІ з ЖЫЦЬЦЯ.*

*Аб школьніцтве.* У прошлым нумары „Б. Фр.“ мы пісалі, што польскія школьныя ўлады не далі дазволу на адчыненьне ў Вільні бел. ліцэю. За некаторыя сказы гэтага артыкулу і за канец перадавіцы наша газэта была сканфіскавана. У справе школьніцтва не ад рэчы будзе падаць словы органу Саюзу Польскага Вучыцельства (ZNP) „Głos Nauczycielski“, які ў Nr. 36 сёлета ў артыкуле „Нашы ідэолёгічныя асновы“ так пісаў: „Мы праціўны закладаньню аддзельных школ для кожнага веравызнаньня, народнасьці грамадзкай клясы...Закладаньне школ паводле веравызнаньня або нацыянальнасьці аслабляла-б нутраную злучнасьць (spoistość) дзяржавы“.

Гэтыя словы выясьняюць нам палітыку ZNP, які ў польскім жыцьці і ў Міністэрстве Асьветы мае вялікія ўплывы. Ня дарма шэф штабу ОЗН палк. Кавалеўскі скаржыўся на аднэй з прэсавых канфэрэнцыяў, што павадыры ZNP (Związku Naucz. Polskiego) ня хочуць нават з ім гаварыць...

*Атручаныя антэны.* Віл. «Słowo» (11. VII.) у арт. „Zatrute anteny“ шырока расьпісалася на тэму шкоднасьці радыёвай прапаганды Коўны і Менска, асабліва гэтага апошняга, і даходзіць да вывадаў, што ў праграме віл. радыя трэба ўвесьці нейкія папраўкі і зьмены, з тым, каб магчы скутэчна змагацца з варожай прапагандай Менска. Дзеля гэтага „Słowo“ раіць стварыць аж цэлую камісію, зложаную з прадстаўнікоў радыя, войска і грамадзянства, якая праз пару тыдняў слухала-б Менск і Коўну і ў рэзультаце прышла-б да нейкіх пастановаў у кірунку проціўдзеяньня атручаным антэнам Менска і Коўны...

На наш пагляд, нічога з гэтага ня будзе; бо ў якой мове ішло-б гэтае проціўдзеяньне? Калі ў польскай, дык будзе тое самае, што і цяпер, а ў беларускай, як падавало тоеж „Słowo“, на абшары віл. ваяводзтва гаварыць праз радыё ня можна. Значыць, стварылася бязвыхаднае палажэньне! А тымчасам Менск робіць сваю работу. Да яго прыслухоўваюцца ня толькі беларусы, але і палякі! Характэрная рэч, што польская мова і праграма радыя неяк не трапляе да душы нашага насельніцтва! Кажуць, што польскія аўдыцыі нудныя і ня маюць таго жыцьця, што беларускія Менска. Толькі тады, калі перадавалі з Вільні пару разоў беларускія песьні, тады пры апаратах было поўна народу. Прыходзілі за некалькі кілёмэтраў, каб паслухаць! І дзіўная рэч, што Менск чуваць ужо на ўсходняй граніцы віл-троцкага павету... Прагавітае слуханьне менскага радыя заўважваецца асабліва там, дзе спынены бел. рух і куды не даходзяць бел. газэты. Там слухаюць Менск з нейкай містычнай набожнасьцяй, як голасу з зазямнага „раю“. Мусіць дзеля гэтага „Słowo“ і прыходзіць ўканцы да вываду, што „likwidacja lub unieszkodliwienie anten, zatrutych jadem wrogiej propagandy, jest na naszych ziemiach zagadnieniem palącem“.

Значыць, і тут ліквідацыя! І праўда, да нас даходзяць весьці з правінцыі, што некаторыя радыёвыя апараты ліквідуюць. Але ці гэта што паможа? Першае, людзі, пачуўшы раз Менск, ніколі аб гэтым не забудуць, а другое — што ўсёжтакі знойдуць нейкі спосаб, каб пачуць яго! Тут ніякая забарона не паможа. Урэшце ліквідацыя ўсяго, нават антэны, таксама да дабра не давядзе, а сьведчыць толькі аб сапраўды бядовым і бязвыхадным палажэньні ня толькі беларусаў, але і палякоў... Ліквідацыя і толькі ліквідацыя не дае нічога пазытыўнага, а проціўдзеяць можна толькі пазытыўнай работай.

Уся надзея некаторых польс. кругоў на Баранавічы, дзе буду-

# З Савецкай Беларусі.

## Яшчэ аб Чарвякове.

У папярэднім нумары мы пісалі аб самагубстве прэзыдэнта БССР Чарвякова, які 16. VI. с. застрэліўся. З яго сьмерцьцю адышоў апошні дыгнітар Савецкай Беларусі, зьвязаны больш менш з беларускімі масамі і краем. Становішча Чарвякова фактычна моцна захісталася ўжо пасьля першага разгрому нацдэмаў у 1928 г., а па самагубстве бел. гісторыка, праф. Ігнатоўскага, ня меў ён ужо ніякога значэньня. Чарвякоў быў вучнем Ігнатоўскага ў Вучыцельскім Інстытуце і ўвесь час лучылі іх прыяцельскія адносіны. Спаткаў іх і аднолькавы лёс.

## Новыя назначэньні.

Апошнія назначэньні на вышэйшыя становішчы БССР поўнасьцю пацьвярджаюць, што сталінаўская палітыка пры абсаджваньні вышэйшых становішчаў у паасобных рэспубліках і асабліва на Беларусі тасуе новы прынцып нацыянальнай палітыкі, паіменна, высоўвае на кіраўнічыя ролі людзей, зусім або надта мала зьвязаных з краем і народам. Гэтак на месца Чарвякова старшынёй ЦВК. БССР. вызначаны *Стакун.* Стакун да 1935 г. зусім на Беларусі ня жыў і не працаваў, займаючы другарадныя становішчы на Каўказе, Казакстане і іншых мясцовасьцях СССР. Толькі ў 1935 г. Стакун быў назначаны памоцнікам нар. кам. спажывецкага промыслу ў Беларусі, а ўсьлед за гэтым быў хутка выбраны сакратаром гомельскага партыйнага камітэту, дзе і аставаўся да апошняга часу.

Аднačасна на заступніка старшыні саўнаркому БССР вызначаны *Жураўлёў.* Да 1934 г. працаваў ён такжа ў розных мясцовасьцях СССР, а перад сваім апошнім назначэньнем быў сакратаром віцебскага наркому. Як мы пісалі, Стакун і Жураўлёў на апошнім зьезьдзе кам. партыі Беларусі востра крытыкавалі Чарвякова і здэцыдавалі аб яго лёсе.

## Барацьба з нацыяналістамі.

На сэсіі ЦВК. СССР у Маскве ў ліпені г. г. „ўкраінскі“ дэлегат Хацкевіч сьцьвердзіў узрост актыўнасьці нацыяналістычных элемэнтаў у Сав. Беларусі і іншых рэспубліках. Нацыяналісты супрацоўнічаюць з іншымі „ворагамі“ народу—трацкістымі і бухарынцамі. Менская газэта „Рабочы“—орган ЦК. КПБ. у сувязі з бясконцымі арыштамі сьцьвярджае, што „ворагі“ народу ў Беларусі яшчэ ня выгублены, хоць ГПУ усё больш разматвае клубок праступных дзеяньняў Дзякава, Бэнэка, Убарэвіча і іншых „подлых слуг фашызму“. Газэта падчырківае, што як „ворагі“ народу дзеюць у Беларусі бел. нацыяналістыя, правыя эсэры, меншавікі, трацкістыя. У сувязі з надходзячымі выбарамі паводле сталінаўскай канстытуцыі газэта заклікае выкараніць ды зьліквідаваць аканчальна проціdзяржаўную дзейнасьць Галадзеда ды Чарвякова.

Артыкул гэты папяраджаў аб новых перасьледаваньнях беларускіх нацдэмаў і іншых „ворагаў“. Пасыпаліся новыя арышты і часта растрэлы працаўнікоў звычайных, якіх прозьвішчаў нават не падаюць, а толькі агульна пішуць аб шматлікіх чыстках. У апошнім часе ГПУ выкрыла нацыянал-дэмакратаў між прафэсарамі ды навуковымі працаўнікамі Бел. Дзярж. Унівэрсытэту ў Менску.

## Унівэрсытэт.

Менскі Унівэрсытэт за ўвесь час свайго існаваньня перажывае цяжкія часы. Там адбываліся бязупынныя чысткі навуковых працаўнікоў, вінавачаных у нацыяналізьме. Як беларуская навуковая ўстанова, ўнівэрсытэт, зразумела, ніколі не патрапіць вызбыцца закідаў нацдэмаўшчыны, бо, разьвіваючы беларускую навуку, ягоныя працаўнікі рызыкуюць кожную хвіліну пераступіць нявыразную мяжу і „ўхіліцца“ ў бок нацыяналізму. Паводле менскай прэсы аказаліся ворагамі народу наступныя навуковыя працаўнікі БДУ: *Кучынскі, Каляда, Шчарбакоў* (ведамы прафэсар), *Усьпенскі, Афанасьеў, Ляўданскі, Пшанічны, Аляхновіч, Мухарджа, Паташ, Кернажыцкі* і іншыя. Усім ім закідаецца нацыяналдэмакратызм і трацкізм. З нагоды гэтых перасьледаваньняў менская газэта „Зьвязда“ пісала, што на ўнівэрсытэце можа быць страчаны акад. год дзеля нястачы працаўнікоў.

У інстытуце аграрнага глебазнаўства акадэміі навук БССР нацыяналдэмакратамі аказаліся дыр. *Пратасеня* і праф. *Магарам.*

Чысткі і арышты адбываюцца ў іншых установах, асабліва ў менскім радыё, якое штораз менш падае бел. аўдыцыяў, а штораз болей расейскіх з Масквы. Прыгэтым беларуская мова менскага радыя вельмі зрусыфікавана, так што часам трудна адрожніць, ці гэта мова беларуская, ці расейская.

*Ш.*

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

**З жыцьця вёскі.**

*Неўраджай.* Вялікім няшчасьцем для бел. сялянства была сёлетняя засуха, якая засушыла як азімае збожа, так і ярыну. Лепшы ўраджай толькі на нізкіх або глiністых глебах, але такіх мясцоў мала. Жніво, якое ў некаторых паветах ужо бадай скончылася, выявіла проста катастрафальны стан сёлетняга ўраджаю. Жыта па ўзгорках прапала зусім, няма нават гутаркі аб тым, каб вярнулася насеньне. Таксама і ярына. Лепш прадстаўляецца бульба, на каторую ўся надзея. Сенажаці далі сярэдні збор сена, канюшына прапала, ёсьць пагроза нястачы пошару для скаціны. Цэны на скаціну падаюць. Мясцамі ўрад арганізаваў пункты збыту скаціны, плацяць па 1,10—1,30 зл. за кілё жывой вагі. У некаторых паветах (Ваўкавышчына) солтысы абходзілі хаты, заклікаючы, каб людзі пісаліся на збожа і на корм для жывёлы, бо ўрад будзе даваць помач. Людзі пішуцца. За збожа трэба будзе за год аддаць збожам, а за пошар — грашмі. Пішуцца так памногу, што бярэ сумніў, скуль урад возьме і ці ўсіх абдзеліць? А калі не абдзеліць, то ў некаторых хатах будзе голад. Беларускае грамадзянства павінна падумаць аб стараньні перад урадам і арганізацыі помачы.

*Характэрныя праявы.* З Баранавіцкага пав. мы атрымалі трохі вестак, якія даволі ярка рысуюць палажэньне беларусаў на вёсцы. Паміж іншым пішуць так: „Бел. арганізацыі ў нас пазакрываны і навока бел. рух у павеце спынены. На бел. прадстаўленьні нават польскім арганізацыям дазволу не даюць і наагул некаторыя польскія кругі, як могуць, стараюцца высьцерагацца нават назову: беларус, беларускі. Ім здаецца, што бел. рух ужо зьліквідаваны цалком, над ім можна перайсьці да парадку дзеннага. Нядаўна былі арганізаваны па гмінах і ў Баранавічах „сьвята песьні“, дык бел. песьня і бел. танцы, як лявоніха ці мяцеліца, ня былі дапушчаны, а былі такія дзівосы, што дзеці з глухіх беларускіх вёсак выступалі на сцэне і выконвалі танцы: польку і мазура, адзетыя ў кракаўскую вопратку — і гаварылі, што яны паходзяць ад Пяста і Кракуса. Пяялі некалькі песьняў і беларускіх, але пераложаных на польскую мову і датаго няўдала, што для знаўцаў аж прыкра было слухаць. Гэтакія імпрэзы можна назваць зьдзекамі над бел. песьняй. Прыгэтым цікава тое, што ўсё гэта падана як „miejscowe piosenki i tańce ludowe“. Аж прыкра рабілася, што нам, тутэйшым людзям, прыпісвалі гэтакія песьні і танцы. Адзін панок з-пад Кракава дзівіўся і казаў, што песьні, асабліва танцы, зусім падобныя да танцаў „малапольскіх“ і гэта ёсьць доказам, што сапраўды паміж тутэйшым насельніцтвам і кракаўскім няма ніякай рожніцы і што ўсе належым „do szczepu piastowego“...

Народ да гэтакіх выступленьняў адносіцца розна: адны сьмяюцца, другія наракаюць, а трэція —праўда, у малой колькасьці, але ідуць, і бяруць удзел у гэтых прадстаўленьнях, каб мець ласку. Мясцамі спасьцерагаецца вялікае лякайства. Людзі дзеля якіхнебудзь карысьцяў гатовы зрачыся сваіх пракананьняў або іх часова прыкрыць. Мусіць, адчуваюць гэтае і і афіц. кругі, бо пачалі цяпер вастрэй сьлядзіць нават за польскімі арганізацыямі і за „ўхілы“ часам іх ліквідуюць. Асабліва баяцца кам. ячэяк у арганізацыях. Падазрэньні, досьледы і арышты здараюцца часта.

Гэтакі невясёлы абраз нашай вёскі прадстаўляецца, гледзячы зьверху і судзячы па хвалях, гнаных ветрам. А ўнутры? Аб гэтым можа іншым разам.

ецца новая радіёвая станцыя. Але ці Баранавічы заглушаць Менск? Нам здаецца, што не. Баранавічы будуць працаваць на кароткай хвалі, а Менск на даўгой. Паводле міжнародных умоваў, Польшч можа мець толькі адну доўга-хвалёвую станцыю, а Саветы — пяць. Перайсьці на аднолькавую хвалю з Менскам немагчыма, бо тады ня будзе чуваць ані Менска, ані Баранавіч! Значыць, і па збудаваньні станцыі ў Баранавічах людзі пад самымі Баранавічамі будуць слухаць Менска, так як слухаюць яго пад Вільняй... Словам, надаючы толькі польскія аудыцыі, ствараецца бязвыхаднае палажэньне.

*Марыянскі кангрэс.* Дня 1, 2, 3 ліпня, у 10-ыя ўгодкі каранацыі абразу Вострабрам. Маці Божай, адбыўся ў Вільні рэлігійны кангрэс. Трэба прызнаць, што ў кангрэсе бралі ўдзел выключна нашы бел. бабулькі, якіх прывязьлі польскія ксяндзы; ня відаць было мужчын і інтэлігенцыі. Слухаць рэфэратаў ішлі бабулькі па загаду ксяндзоў. Чаму такія адносіны да кангрэсаў? Прычын многа: 1) наша вёска знаходзіцца пад знакам „людовага“ фронту і набожныя кабеты тут мала памогуць, 2) мужчыны і інтэлігенцыя да спраў рэлігійных раўнадушны, 3) літвіны і сьведамыя беларусы дзеля ведамых прычын у кангрэсе ўдзелу ня бралі. Рэзалюцыі кангрэсу насілі паміж іншым і палітычны характар. У рэзалюцыях было сказана, што „narod polski i katolicki, jako jedyny gospodarz odwieczny swego państwa» і г. д. а аб беларусах і літвінах нічога. Наагул рэзалюцыі былі ўложаны ў эндэцкім духу, а ў канцы не абыйшлося бяз клічу: »swój do swego po swoje”. Адзін казнадзей нават гаварыў аб патрэбе асадніцтва! Мэтай кангрэсу было змаганьне з камунізмам, але трэба прызнаць, што кангрэс выявіў поўную сваю бясьсілу ў гэтым змаганьні. Мабілізацыя ксяндзамі бабулек тут мала паможа. Трэба кінуць у масы творчыя клічы, стварыць для гэтых мас магчымасьць лепшага эканамічнага жыцьця, даць бел. насельніцтву бел. духавенства, даць рэлігійнае і нацыянальнае ўсьведамленьне, тады толькі можна чакаць нейкага пазытыўнага рэзультату. Бяз гэтых падставовых варункаў напрасны труд.

*„Pamiętniki chłopów“.* Пад гэтакім загалоўкам у 1935 г. у Варшаве „Instytut Gospodarstwa Społecznego“ выдаў вялікую кнігу, у якой самі сяляне пішуць аб сабе. Гэта ёсьць споведзь сялян аб сваей долі, аб крыўдах, аб адносінах да дзяржавы і касьцёла. Паміж іншым ёсьць там успамін, які характэрызуе адносіны сялян да духавенства і ягоных казаньняў. І так адзін селянін з Ваўкавышчыны у сваіх успомінах так успрыймае казаньне аднаго ксяндза. Ксёндз казаў: „Мае даражэнькія! Глядзеце, які наш Пан Бог добры. Ствараючы сьвет і чалавека, стварыў і стройную жонку для яго; стварыў коніка, каторым ты езьдзіш —гэта таксама для цябе, чалавеча; стварыў кароўку, якая дае малако і масло —і гэта для цябе, чалавеча; стварыў сонца, што гэтак ясна сьвеціць і грэе, даючы жыцьцё ўсяму сьвету — і гэта для цябе чалавеча; стварыў месяц і зоры, што нам хараша сьвецяць ўначы і гэта для цябе чалавеча; стварыў паветра, якім дыхаем, без якога не існавалаб жыцьцё —і гэта для цябе, чалавеча. Вельмі добра сказаў — дадае ад сябе той селянін — толькі што гэтых праўдаў не дакончыў, што гэтыя абшырныя палі, сенажаці і лясы—гэта не для цябе, чалавеча. Гэта для адзінак толькі ўпрывілеёваных“.

Словы гэтыя сьведчаць, як крытычна ўспрыймаюць сяляне хоць і стройныя, але без канчатковага лёгічнага вываду, набожныя казаньні вясковых казнадзеяў...

*Ад Рэд.* Цяпер спасьцерагаецца тэндэнцыя некаторых польскіх кругоў саўсім выкінуць бел. песьні і танцы з афіцыяльных імпрэзаў. І так „Dz. Wil.“ з 30.VI. г. г. востра выступіў нават проціў нашай слаўнай Лявоніхі, якая пару гадоў таму на дажынках у Спале заняла першае месца з усіх польскіх і няпольскіх народных танцаў. І сапраўды, усюды, дзе паставяць Лявоніху або запяюць бел. песьні, яны выбіваюцца на чало імпрэзы і захапляюць усіх. Гэта вучыць нас лепш цаніць свае народныя багацьці.

### У бел. нац. сацыялістаў.

Бел. нацыянал-сацыялісты, якія пару гадоў таму пачалі арганізаваць сваю партыю, у сваім органе „Новы Шлях“ (15.VI. г. г.) абвесьцілі аб утварэньні цэнтральнага камітэту партыі ў такім складзе: Фібіян Акінчыц, Уладыслаў Казлоўскі, Канстантын Юхневіч, Алёйзы Пецюкевіч і Антон Сапко. Выбраны также „провад“ партыі ў складзе: Ф. Акінчыц — старшыня, Ул. Казлоўскі—сакратар і К. Юхневіч — скарбнік.

Ад сябе адзначаем, што ва ўсім гэтым кідаецца ў вочы ўкраінскае слова „провад“. Словы *провад*, *провады* у бел. мове маюць іншае значэньне (*правесьці* каго). Нам здаецца, што добрым беларускім словам для азначэньня „праваду“ былоб „кіраўніцтва“.

### Рэпрэсіі адносна Бел. Студ. Саюзу ў Вільні.

Паводле новага польскага закону ўсе арганізацыі, якія маюць нейкія адзнакі, павінны зарэестраваць іх у адпаведных уладаў і атрымаць дазвол на нашэньне гэтых адзнакаў. Бел. Студ. Саюз падаў у Віл. ваяводзтва просьбу, каб сябрам Саюзу дазволілі насіць публічна шапкі з беларус. беражкамі і нац. стужкі на грудзях. Аднак ваяводзтва дало адмоўны адказ, не падаючы ніякіх матываў. Урад Саюзу падаў рэкурс у Міністэрства Унутр. Спраў. Трэба тут адзначыць, што студэнцкія саюзы літоўскі і ўкраінскі гэткія дазволы атрымалі, а не атрымаў дазволу толькі беларускі саюз.

„Sprawy Narodowościowe“ ў 1-ым нумары сёлета прыносяць вестку, што Бел. Студ. Саюз у Вільні налічвае 65 сяброў. Падчас апошніх выбараў у сакавіку г. г. зарысаваліся між студэнтаў беларусаў дзьве выразныя групы: нацыянальная і „адналіта-франтовая“. Павадырамі групы „адналітага фронту“, як кажуць „Sprawy Nar.“ былі студэнты, якія групаваліся каля „Бел. Крыніцы“.

# Кнігапіс.

*„Калосьсе“ Кн. 3/37 г.*

Вышаў 3 нумар літ.-нав. часапісу „Калосьсе“.

Фактычна часапіс даўно ўжо перастаў зьмяшчаць навуковыя працы, затое часта знаходзім там публіцыстычныя артыкулы. Прагледаючы зьмест апошняга нумару, трэба прызнаць, што зьмест яго, па-за паэзіяй ды адным-двумя артыкуламі, ёсьць з гледзішча беларускага бязвартасным. Маем напр. апавяданьне *„Ааза стрэхаў“*, у якім аўтар стараецца паказаць нейкую дарогу звольненаму несправядліва вучыцелю і нават прымушае яго сказаць, быццам ён ня зблудзіў у лябірынце, аднак ўсёж чытач яго дарогі ня бачыць.

Зусім немагчыма зьмяшчаць у літ.-нав. квартальніку гэткіх артыкулаў, як *„На шляхv творства беларускіх культурных цэннасьцяў“*. Гэта газэтны артыкулік і то дужа слабенькі. Аўтар на двух з палавай бачынах, з якіх уступ займае дзьве, пералічвае з прэтэнсыямі да вычэрпываючага агляду культурныя здабыткі беларускага народу ў розных галінах творства. Ось-жа гэтыя здабыткі зьмяшчаюцца ў беларускай песьні, двух тэатрах у Менску і Віцебску ды ў віленскіх мастакох—Сяргіевічу, Сяўруку і Чурыле... Больш аўтар пералічыць нічога не патрапіў! Гэткі артыкул для беларуса ёсьць нічым іншым, як карыкатурай на беларускую творчасьць, а для чужынца можа быць крыніцай пазнаньня „ўбоства“ беларускае творчасьці, чаго якраз няма, бо бел. творства вельмі багатае, толькі трэба яго ўмела пералічыць.

Урэшце маем два артыкулы „На службе вокальнага мастацтва“ і „На віленскіх эстрадах“, з галіны скажам „канцэртаманіі“. Апошнім часам канцэртаманія сталася проста хваробай віленскіх беларусаў. Аб канцэртах усе пішуць сажнёвыя справаздачы, але рэкорд пабіла запраўды „Калосьсе“! У апошнім нумары на гэта прысьвечана аж шэсьць бачын! Пры гэтым, скончыўшы з беларускімі канцэртамі і сьпявакамі (гожа адзначыць, што канцэрты былі аж у маі!), шырока распісалася аб польскім канцэрце, ладжаным нейкімі „штубакамі“ з твораў польскага камп. Шымапоўскага ды аб нястачах і непарадках на гэтым канцэрце; далей аб канцэртах Шаляпіна і г. д. Можна запраўды падумаць, што дзіўная гэта публіка, віленскія беларусы! Абставіны ўсё больш пагаршаюцца, на вёсцы пануе бязьмежная цемра, дзікасьць, галіта, нясьведамасьць, а тут яны ходзяць па канцэртах, ды пішуць аб іх паўгода пасьля.

Аб канцэртах пісаць трэба аднак трэба захоўваць пачуцьцё меры ды актуальнасьці. Трэба ня пісаць доўга аб канцэрце даўно мінуўшым, а лепш наладзіць новы.

Расьпісаўшыся на цэлым аркушы аб канцэртах і іншых малазначных у сучасную хвіліну для беларусаў прадметах, «Калосьсе» ледзь знайшло месца, каб успомніць аб арыштаваных прафэсарах М. Унівэрсытэту ды крытыках. Праф. Шчарбакоў напр. унёс вялікія здабыткі ў бел. культуру ды і іншыя палажылі шмат заслугаў. Лепш запраўды было пазнаёміць белар. грамадзянства з працамі гэтых вучоных, чымся займацца вышуківаньнем дэлікатных розьніцаў у пералівах голасу паасобных сьпявакоў, хоць-бы і вялікіх, ды прыгэтым чутых на даўно ладжаных канцэртах.

Вышлі з друку: сборнік вершаў М. Танка *„Журавінавы цьвет“* і асобнай кніжкай паэма *„Нарач“*, друкаваная ў „Калосьсі“. Аб іх другім разам.

*Ш.*

**Новыя кніжкі** (прысланыя ў Рэдакцыю).

1. *Беларускія (крывіцкія) народныя песьні і казкі*, кніжка I, 32 бач., цана 45 гр.
2. *Ab sadoch i hryboch.* Sadžeńnie j dahlad sadu, źbirańnie, sušeńnie, saleńnie j marynavańnie hryboй. 32 bač., cana 45 hr.
3. *Гадоўля авец.* 16 бач., цана 25 гр.
4. *Haspadarski zbornik*, кн. I, цана 30 гр.
5. *Як правільна гаварыць і пісаць пабеларуску*, пастановы Зборкаў Чысьціні Беларускае мовы, цана 75 гр.

# На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц ліпень).*

### Зблізкэньне Англіі з Італіяй.

Сэнсацыяй апошніх дзён ёсьць спробы збліжэньня Англіі з Італіяй. Ад часу абісынскай вайны паміж гэтымі дзяржавамі паўстаў вялікі антаганізм, які на пачатку абіс. вайны ледзь не перайшоў у адкрытую вайну. Да паглыбленьня гэтага антаганізму прычыніліся гішпанскія падзеі, ў каторых Італія стала па старане паўстанцаў, а Англія—па старане ўраду. З часам гэты антаганізм абняў усё Міжземнае мора з яго ўзбярэжжамі, пачынаючы ад Гішпаніі, а канчаючы на Эгіпце, Палестыне і Арабіі.

Уся ўвага Англіі была скіравана на гэты антаганізм. Тымчасам у Далёкай Азіі насьпявалі важнейшыя падзеі. Там Японія пачала вялікую афэнзыву проціў Кітаю, у якім уложана шмат анлійскага капіталу. Калі-б Японія цалком узалежніла гэтую вялізарную дзяржаву ад сябе, англійскія гандлёвыя і палітычныя інтарэсы моцна пацярпелі-б; апроч гэтага Японія, заўладаўшы Кітаем, праводзіла-б з яшчэ большым размахам свой кліч „Азія для азіятаў" і магла-б дайсьці да самага балючага месца Англіі—да Індыі, дзе і так неспакойна. Усё гэта прымусіла англ. дыплямацыю зьліквідаваць спор з Італіяй, каб магчы зьвярнуць усю ўвагу на Далёкі Усход...

Гэтакая ёсьць прычына збліжэньня Англіі да Італіі.

Для Італіі збліжэньне з Англіяй таксама вельмі пажаданае. Яно разьвяжа справу прызнаньня за Італіяй Абісыніі, дасьць вольныя рукі Італіі ў Гішпаніі, пазволіць умацавацца ў Абісыніі і падгатовіцца да новых здабыткаў...

Англ. прэм'ер Чэмбэрлен у пісьме да Муссоліняга выразіў праканаваньне, што паміж інтарэсамі Англіі і Італіі няма ніякіх супярэчнасьцяў, што абедзьве стараны імкнуцца да абмяжаваньня гішпанскага канфлікту з мэтай недапушчэньня да эўрапэйскага пажару і што трэба аднавіць „джэнтэльмэнскую ўмову" паміж дзьвяма дзяржавамі з студня г.г. Хоць зьмест пісьма яшчэ неапублікаваны, то ўсёжтакі ў прэсу прайшлі весткі аб тым, што Чэмбэрлен зажадаў ад Італіі спыненьня варожай радіёвай прапаганды паміж арабамі, якую вяла італь. радіёвая станцыя ў Бары і непавялічваньня гарнізону ў Лібіі (італь. калёнія па суседзтву з Эгіптам). З усяго відаць, што Італія на гэтыя варункі пойдзе, бо яны сапраўды лёгкія і ў рэзультаце будзем сьведкамі новага ўкладу паліт. сіл у Эўропе.

Нямецкая прэса з гэтай аказіі піша, што палітычная лінія Рым—Бэрлін праз гэтае збліжэньне не нарушаецца і ўсё астаецца пастараму. Аднак у палітычным сьвеце зьвярнулі ўвагу на характэрны факт прыняцьця Гітлерам новага савецкага пасла Юрэнева. Гітлер прыняў яго ў сваей летняй рэзыдэнцыі, вадзіў яго па сваім садзе, аставіў ня толькі на сьнеданьні, але і на абедзе, словам, з нямілым бальшавіком абыйшоўся надта ветліва. Праўда, сказаў яму афіцыяльна пару непрыемных слоў (што не дапусьціць да ўмешваньня Саветаў у нутраныя нямецкія справы), але бальшавікі на такую дробязь не зварочваюць увагі. Аб чым гаварыў Гітлер з Юрэневым у прыватнай гутарцы — няма ведама. Трэба дапусьціць, што ня толькі аб пагодзе. З гэтых адведзін палітычныя кругі пачалі рабіць вывады аб нямецка-савецкім збліжэньні, так як гэта было да Гітлера, калі існаваў нямецка-савецкі саюз. Ці дайдзе да гэтага збліжэньня і ўзнаўленьня саюзу, згадаць трудна; адно толькі можна сказаць, што ў палітыцы ўсё магчыма. Нямеччына, адкінутая Францыяй і Англіяй, можа пашукаць саюзу з Саветамі. Тымболей, што збліжэньне з гэтымі дзяржавамі не наладжваецца.

### Кітайска-японская вайна.

Хоць мы зьмяшчаем на іншым месцы цэлы артыкул на гэту тэму, выясьняючы *мэты* і *пляны Японіі* ў яе вайне з Кітаем, то ўсёжтакі патрэбны яшчэ некаторыя паясьненьні. З таго, што мы сказалі вышэй аб англійска-італь. збліжэньні, відаць, што Англія, ўпарадкаваўшы свае справы ў Эўропе, пераносе ўвесь цяжар сваей дыплямацыі на Далёкі Усход. А калі так, то трэба дапусьціць, што проціў Японіі гатовіцца цэлая коаліцыя дзяржаў, бо Англія ніколі сама не ваюе, а заўсёды проціў сваіх ворагаў творыць коаліцыі. Да гэтай коаліцыі належалі-б, апроч Англіі, Злуч. Штаты П. Амэрыкі, Францыя, Кітай і, магчыма, Саветы, словам, усе заінтарасаваныя ў Кітаі дзяржавы. Коаліцыя рабілаб націск на Японію пры помачы дыплямацыі, а магчыма і болей рэальных сіл. Калі-б яна дала помач Кітаю ў форме аружжа і здольных афіцэраў, палажэньне Японіі было-б горшае і яна ўсіх сваіх плянаў не правяла-б. Трэба сьцьвердзіць, што на сьвеце пачынаецца пад гук японскіх і кітайскіх гармат вялікая дыпляматычная ігра. Сьлядзіць гэтую ігру павінен кожны палітык, бо яна мае вялікае значэньне для будучага ўкладу сусьветных сіл.

А тымчасам у Кітаі японскія аддзелы спатыкаюць штораз большы адпор з боку кітайцаў. Кажуць, што галоўныя сілы Чанг-Кай-Шэка яшчэ ня ўведзены ў бой. Не насьпела такжа помач з боку Англіі і іншых дзяржаў. Прэ'мер кітайскага ўраду выдаў да народу адозву, ў якой кажа, што Кітай мусіць бараніцца да апошняй магчымасьці і заклікае да рашучага змаганьня з Японіяй. З гэтага відаць, што вайна зацягнецца на даўжэйшы час, а гэта для Японіі некарысна як з боку тэхнічнага, так і фінансавага. Для доўгай вайны Японія ня мае запасаў нафты, жалеза, прадуктаў і амуніцыі. Урэшце і фінансы Японіі вельмі растроены. Ужо асыгнована на вайну 400 мільёнаў енаў, але ці на гэтым скончыцца? Дзеля ўсіх гэтых прычын ці ўдасца Японіі дайсьці да мэты свайго паходу—да Жоўтай ракі на ўсім яе працягу — пакажа будучыня.

Пачаткі проціўяпонскай коаліцыі ўжо зроблены праз візыту амэрыканскай эскадры ў Уладывастоку, дзе бальшавікі вельмі ветліва прыймалі амэрыканскіх ваякаў. Гэту візыту ўважаюць за дэманстрацыю Злуч. Штатаў проціўЯпоніі. Але ці коаліцыя ня спозьніцца, бо Японія ўжо заняла 4 правінцыі.

### Гішпанія.

У Гішпаніі ідзе пазыцыйная вайна,якая робіцца штораз цяжэйшай, болей крывавай і заўзятай. Каб адцягнуць войска паўстанцаў ад баскаў, урадавыя аддзелы ў ліпні перайшлі ў рашучае наступленьне на мадрыцкім фронце. Наступленьне было падгатоўлена з усей стараннасьцяй, у бой былі ўведзены „міжнародныя" брыгады. На пачатку ўрадавым войскам удалося прарваць фронт паўстанцаў і адціснуць іх на колькінаццаць кілёмэтраў назад. Але паўстанцы, атрымаўшы помач, перайшлі ў контрнаступленьне і гэтае контрнаступленьне было адным з найболей крывавых ва ўсей гішп. вайне. Як па аднэй так і па другой старане змагаліся „ахвотнікі" з усіх краёў. У рэзультаце паўстанцам удалося стрымаць наступ „чырвоных" і адабраць ад іх часьць занятай тэрыторыі. Найбольшыя баі адбываліся за мясцовасьць Брунэтэ, якая пераходзіла з рук у рукі. Калі гэта адбывалася на поўдзень ад Мадрыту, на поўначы паўстанцы перайшлі ў наступленьне на фронце Тэруэль, у кірунку на Валенцыю, дзе цяпер прабывае мадрыцкі ўрад. Афіцыяльныя камунікаты сьцьвярджаць, што паўстанцы там пасоўваюцца наперад, займаючы правінцыю Куэнка (Сиепса), якая ляжыць у кірунку Валенцыі.

Усе натугі Англіі, каб давесьці іншыя дзяржавы да неінтэрвэнцыі ў Гішпаніі, не далі пазытыўных рэзультатаў. Апошнім часам, як ходзяць чуткі, Англія пад націскам агульнай міжнароднай сытуацыі, пайшла на руку Італіі ў справе прызнаньня ген. Франко і помачы для яго. Былі нават зьявіўшыся ў прэсе весткі, што ў Лёндыне ген. Франко атрымаў значную пазыку. Калі гэта праўда, справы паўстанцаў пайшлі-б лепш. Становішча Англіі можа здэцыдаваць аб іх перамозе. Што тады станецца з Францыяй? Тож яна будзе акружана трымя фашыст. дзяржавамі: Нямеччынай, Італіяй і Гішпаніяй!

### Францыя.

Францускя дыплямацыя цяпер вельмі аслабела. Франц. урад болей заняты нутраным палажэньнем свайго краю, а найболей ратаваньнем сваіх фінансаў, якія знаходзяцца ў поўным растрою. Дагэтуль усе стараньні ў гэтым кірунку астаюцца без рэзультату. Міністар Боннэ скаржыўся, што абнімаючы кіраўніцтва франц. фінансаў, знайшоў у дзяржаўнай касе толькі 25 мільёнаў франкаў, толькі, сколькі хватае на адзін дзень дзярж. расходу!

Найбольшым здабыткам франц. дыплямацыі было навязаньне прыязных зносін з Ватыканам. Папскі пасол, кардынал Пачэльлі, які быў прыехаўшы ў Францыю на рэлігійны абход пасьвячэньня базылікі ў Лізье, быў прыняты франц. масонскім і „людовым" урадам з чэсьцю, належнай пануючым асобам! Дзеля гэтага былі разыйшоўшыся ў некаторых кругох чуткі, што Папа супрацоўнічае з „людовым" фронтам!

Прычыны гэтага збліжэньня ясны: Францыя хоча выкарыстаць прасьлед каталіцкай рэлігіі Гітлерам. Палітыка Ватыкану таксама хоча тут падчыркнуць, што лягчэй дагаварыцца з „людовым" фронтам, чым з нямецкім бязбожным расізмам. Аб супрацоўніцтве Ватыкану з камунізмам ня можа быць гутаркі. Наадварот, па ўсім сьвеце спасьцерагаюцца імкненьні Катал. касьцёла разьвіць пры помачы кангрэсаў змаганьне з бязбожным камунізмам. Усюды ў адозвах падчырківаецца слова *бязбожны* камунізм, бо Касьцёл проціў камунізму, як такога, асабліва проціў „божага" (манастырскага) камунізму нічога ня мае.

### Польска-румынская унія.

Візыты Польскага Прэзыдэнта ў Румыніі, а рум. караля ў Польшчы былі прычынай многіх чутак і дагадак. Пачалі гаварыць аб новай палітычнай восі: Варшава-Букарэшт, аб абаронным саюзе проціў Саветаў, а нават аб пэрсональнай уніі Польшчы і Румыніі, да якіх у будучыне мае далучыцца і Украіна. Румынскі насьледнік, Міхал, ужо быццам вучыцца польскай мовы! Румынская газэта „Момэнт" піша аб магчымасьці такой фэдэрацыі,як консэквэнцыі вялікай ідэі марш. Пілсудскага. Паміж іншым газэта так піша: „Польшч чуецца на сілах стварыць паміж Бэрлінам і Масквою вялікую дзяржаўную магутнасьць, у каторай 100 мільёнаў насельніцтва няслоб на сваіх плачох найлепшыя клічы чалавецтва, цывілізацыю і мір".

Укр. газэта „Нова Зоря" перасьцерагае перад гэтакай імпрэзай, паклікаючыся на польска-літоўскую ўнію. Яна спачатку ўзмацавала Польшч, але потым упутала яе ў справы Усходу, якія прывялі Польшч да ўпадку. А Літва сягоньні належыць да найболей заўзятых праціўнікаў Польшчы.

Цяпер у Польшчы гасьціць князь Кэнту, брат англійскага караля. Хоць гэтая гасьціна мае прыватны характар, то паліт. кругі бачаць у ёй заінтарасаваньне Англіі польскай палітыкай...

Наагул, польская палітыка ў сучаснасьці на міжнародным грунце вельмі актыўная. Затое нутраная спатыкае вялікія труднасьці і ўнутры дзяржавы адбываецца вялікая дыфэрэнцыяцыя польскага грамадзянства. Працэс Добошынскага, справа пераносін цела марш. Пілсудскага, а ўканцы замах на палк. Коца—вось справы, якія перашкаджаюць у правільным разьвіцьці польск. паліт. жыцьця. Пры гэтым вялікую вагу мае справа нац. меншасьцяў.

---

### Недалічыліся беларусаў.

„Sprawy Narodowościowe", орган польскай меншасьцёвай палітыкі, у апошнім нумары (1-2) сёлета падаў лік беларусаў на 987,952 асобы. Ня больш ня менш! Трэба тут адзначыць, што тыяж „Spr. Nar." пару гадоў таму падавалі лік беларусаў на 1,600.000! А дзе рэшта? „Spr. Narod." пішуць, што да гэтай справы яны яшчэ вернуцца; вернемся і мы у адным з наступных нумароў.

### Пераносіны бел. гімназіі.

Адбываюцца пераносіны бел. гімназіі з базыльянскіх муроў, дзе яна дагэтуль памяшчалася, у дом, дзе мясьціцца польс. гімназія ім. Славацкага. На якім палажэньні яна там будзе —няведама. Няясны таксама прычыны пераносін. Аб пераносінах задэцыдавалі школьныя ўлады. У базыльян. мурох мае быць польскі пэдагогічны ліцэй.

---

## У літоўцаў.

Арыштаванаму ў чэрвені сёлета старшыні б. Літоўскага Нац. Камітэту ў Вільні К. Сташысу пракурорскія ўлады закідываюць дэвізовыя (валютныя) правіны. Усе стараньні, каб звольніць К. Сташыса, асталіся без рэзультату і К. Сташыс будзе прабываць у турме да суду. Тэрмін суду яшчэ ня вызначаны.

---

*ГРАМАДЗЯНЕ! Многія з Вас ужо пазнаёміліся з нашай газэтай „Беларускі Фронт". Гэта незалежны орган беларускай палітычнай думкі; ён кожны месяц прыносіць Вам агляд беларускага жыцьця, міжнароднай палітыкі і паказвае правільны, незалежніцкі шлях беларускай палітыкі.*

*Дык выпісвайце і пашырайце „Бел. Фронт"! Прысылайце складкі і ахвяры!*

*Грошы прысылайце „przekazem rozrachunkowym" Nr. 100 на адрас: Wydawnictwo „Biełaruski Front", Wilno, ul. Ostrobramska 2—11.*

*„Przekaz" можаце купіць на кожнай пошце за 1 грош. Перасылка грашэй такім пераказам не каштуе нічога.*

---

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В. Гадлеўскі.*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га верасьня.*

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.